


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 13 (1152) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 26 САКАВІКА 1978 г. ЦАНА 60 гр.

**ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ**

## ЖЫВАПІСЕЦ ЗЯМЛІ БЕЛАСТОЦКАЙ



У творчай спадчыне **Аляксандра Вэльса,** што паўставала на працягу звыш пяцідзесяці год, не цяжка заўважыць розныя вядучыя тэмы, матывы ці нават аб'екты, якія нейкі час захаплялі мастака, а потым адыходзілі ў забыццё, пакінуўшы трывалы след толькі на яго палотнах.

У першых яго працах амаль на стала прыжыўся месяц, і ў яго кволым і халодным святле ледзь абрысоўваюцца сілуэты постацей, рэчаў і пейзажу. Усё тут нейкае загадкавае, няўпэўненае. Нават прадстаўленыя поры года — прадвесне, ранняя восень, зазімак — падкрэсліваюць гэтую нерашучасць мастака. Хістанне неўзабаве вырашаецца: у творчасці мастака насоўваецца начная халодная стынь. У ёй патанула ўсё: пейзаж, людскія постаці. Так, зрэшты, як гэта было тады ў жыцці — наступіла цемра гітлераўскай акупацыі. Самымі панурымі адценнямі сіняга ды самымі крывавымі чырвонага колераў выказвае мастак свае перажыванні. На палатне „Вандраўнік" прадстаўлена ссутуленая постаць жабрака, а за ім на раскоўзанай глiністай дарозе — конскі труп. Ці карціна „Ноччу над возерам", на якой два чалавечыя сілуэты ні то змагаюцца ні то туляцца, стоячы на хісткай кладцы над азёрнай безданню. Або „Дрывасек", дзе чалавек, прысеўшы на ссечаным ім жа магутным камлі, над нечым глыбока задумаўся. Надта ж глыбокія па свайму зместу гэтыя карціны.

Але вось мяняецца гістарычная сітуацыя і мяняецца настрой у творах мастака. Перш за ўсё наступае выбух захаплення жыццём — такога простага, непасрэднага, дзіцячага захаплення. І на карцінах узнікаюць лёгкія светлыя домікі на зялёных лужках пад карункавымі галінкамі елак, затопленыя ў ласкавым сонейку. Тое самае з варшаўскімі Лазенкамі, што заглядаюць у люстраную гладзь сажалкі. Паяўляюцца і такія экспрэсіўныя, дынамічныя кампазіцыі, як „Ікар", „Усхваляванае мора" ці „Дрэвы над вадой". Вось іменна вада прываравае творцу, і ён паказвае яе ўсёй палітрай колераў, хоць часцей за ўсё — сінім, як у фальклорных песнях, дзе „сіне мора" ды „сіні дунай". Затым прыйшоў час на зелень — яскравую, сакавітую, нават ядавітую, — што пазалівала ўсё : зашаптала на дрэвах і кустах, услала палі і лугі, заглянула ў люстры рэчак і сажалак. А калі ўжо скончыла яна свой шалёны танец, зазвінелі медзь, бронза, ды золата асенніх колераў. Але пэндзаль мастака задоўга не раскашаваўся гэтымі скарбамі, бо зараз жа прывабіла яго бель. Так, іменна пераліўчатая бель зімовага краявіду. Хто ведае, мо гэты колер быў спадарожнікам позняй сівізне на скронях мастака, мо гэта быў той яго апошні колер? І дзіўна, гэтая бель у апошнія гады перад яго смерцю пачала спавівацца ў смугі марознага туману ды застылае святло месяца, якія ён так



*А. Вэльс — „Дрэвы".*

(Працяг на стар. 2)

Звонкавых прыкмет не ўсё можна адгадаць. Падобных вёсак на Беласточчыне шмат. Новыя дамы, прыгожыя жалезныя агароджы... Нічога асаблівага. Проста манера багатых, каб прыкаваць да сябе позірк людзей. Можа тады гэты гарадскога тыпу жылы блок, які толькі што паявіўся ў канцы вёскі, можа адміністрацыйны асабняк, можа прасторны сельскагаспадарчы асяродак за вёскай, можа гэты вясковы дом культуры, у якім сёння сабраліся гуртам усе жыхары Дарожак, каб адзначыць сваё гадавое свята... Свята своеасаблівае, нідзе ў календары не ўказанае, працай заслужана, свята ўраджаю, якое тут называюць гадавымі падлікамі. Свята радасці і новых імкненняў.

## ДАРОГА ДАРОЖАК

Заглянем на хвіліну ў гэты вясковы цэнтр культуры, адкуль разносіцца песня:

*„Маруся, ты Маруся,*
*Люблю тэбэ, як гуску.*
*Люблю дывытыся,*
*Люблю дывытыся,*
*Як ты нысэш закуску"...*

Закуска і ўсё іншае паявяцца тут вечарам, а пакуль што, у прысутнасці гасцей з Беластока, ідзе дзелавітая гутарка пра гаспадарскія справы спулдзельні, у якой цяпер згуртаваны 74 члены і 44 сем'і, — амаль цэлая вёска. 424 га зямлі. Старшыня спулдзельні, **Аляксандр Вішнеўскі**, кажа, што малавата гэтай зямлі на іх патрэбы, а трактарысты — Ян Барута і Міраслаў Трахімчук, дадаюць, што гэтая спулдзельчая зямля страшэнна раздробленая. Прыступалі да спулдзельні ўсё новыя сяляне разам са сваімі кавалкамі палёў, раскінутымі па розных кутках тутэйшай тэрыторыі і такім чынам назбіралася звыш 70 дзялянак спулдзельчага поля.

— Адзін раз, — расказвае трактарыст Барута, — паслаў мяне брыгадзір касіць жыта. Сказаў, што знаходзіцца яно ў нашых „Межах". Паімчаліся мы ў гэтыя „Межы" і ў дзве снопавязалкі выкасілі паўтара гектара збожжа нейкаму селяніну...

Мірaслаў Трахімчук, сын першага старшыні, крыху малодшы ад дарожкаўскай спулдзельні, вырас і выгадаваўся на кааператыўным полі. Цяпер ён трактарыст, камбайнёр, шафёр — проста механізатар, усё патрапіць, да ўсяго прывучыўся.

— Мае заробкі? Каб былі дрэнныя, дык кінуў бы гэтую спулдзельню... З

(Працяг на стар. 4)

БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-78

## ЖЫВЕ ПЕСНЯ Ў НАШЫМ НАРОДЗЕ

Народная песня! Уся жыццёвая мудрасць, што складалася стагоддзямі, сабрана ў іх. І ці будзе гэта сумная і напеўная балада пра дзяўчыну-сірату ў выкананні Ніны Такаюк з Мікуліч, ці вясёлая і задорная „А я замуж не пайду", якую заспявала Софія Цацэрка з Баброўнік, ніхто не пасмеў бы закінуць гэтай песні несур'ёзны падыход да жыцця ці брак аўтэнтызму.

...Вось сустрэліся дзве кумы на вясковай вуліцы. Уся пастава адной з іх сведчыць аб тым, што гэта яна тут вядзе рэй. Вось яна нахіляецца да суседкі і нешта шэпча, расказвае... А гэта ж Клаўдзія Бакун і Вера Роля з Тапаркоў спяваюць нам пра шумячы гай і пра тры крынічанькі ў полі. Кіньце вокам на каляровы меляшкоўскі калектыў! Ці нічога не гаворыць вам маестатычная постаць вясковага гарманіста (Юры Домань), на твары якога выпісана ўся туга народных песень? Вось ён далікатна нахіляе галаву ў бок меляшкоўскіх спявачак — і ўсе яны зліваюцца ў адно цэлае: у вялікі жаль да яснага, але несправядлівага месячыка, аб якім спяваюць жанчыны.

Многа ўдзельнікаў фінальнага агляду „Беларуская песня — 78" прайшло перад вачамі сабранай публікі. Адны з іх ужо добра знаёмы са сцэнай. Яны адчуваюць сябе тут, амаль як дома; як запраўныя акцёры, упэўнена выходзяць на сцэну і прадстаўляюць свой рэпертуар так, быццам бы загадзя ведалі, што ўзнагарода ад іх і так не ўцячэ (дубяжынцы, Гарадок ці Люба з Аляй Гаўрылюк з Беластока).

Іншыя ж выходзяць нясмела і можа нават няёмка адчуваюць сябе на сцэне, а якраз гэтая нясмеласць прыдае іх выступленню яшчэ больш аўтэнтызм. Вось спявае ўпершыню на аглядзе васьміасабовы калектыў з Вітава. Пажылыя ў большасці жанчыны апрануты ў старыя саяны і белыя атласныя блузкі, такія ж хусткі ў іх на галаве. Ад іх старых-старых песень „Ой, там ясно" і

(Працяг на стар. 3)



*Спявае Арэшкава...*

# ШТО НОВАГА?

### НА ЗАДВОРКАХ АМЕРЫКІ

Галеча, хваробы, высокая смяротнасць — такі лёс індзейцаў — карэнных жыхароў Амерыкі, якія даўно ўжо сталі чужымі ў сваёй уласнай краіне.

270 плямёнаў, загнаных у рэзервацыі, пазбаўлены абароны з боку закона, практычна не маюць ніякіх сацыяльна-эканамічных правоў. Джымі Дарэм — прадстаўнік племя чарокі, выступаючы на Сусветнай асамблеі будаўнікоў трывалага міру ў Варшаве, заявіў: „Злучаныя Штаты вінаватыя ў парушэнні галоўнага права чалавека — права на жыццё. Мы пазбаўлены права на ўласную культуру і мову, права на адукацыю, права на асэнсаванае жыццё". Жыццёвы ўзровень індзейцаў у пяць разоў ніжэйшы за сярэдні ўзровень жыцця ў ЗША. Больш як 75 працэнтаў з іх пакутуюць ад недаядання, сярэдняя працягласць жыцця роўная 44 гадам, з кожных пяці нованароджаных трое паміраюць.

Карэнныя жыхары амерыканскага кантынента вядуць цяжкую і ўпартую барацьбу за аднаўленне сваіх законных правоў. У 1973 годзе па ініцыятыве „Руху амерыканскіх індзейцаў" у знак пратэсту супраць бяспраўя і галечы былі заняты пасёлак Вундэд-ні. Неаднаразова патрабаванні ў абарону сваіх правоў выстаўляліся індзейскімі плямёнамі ў штатах Мэн, Нью-Йорк, Масачусетс, Канектыкут і іншых. Аднак вынікі роўныя нулю. Але індзейцы поўныя рашучасці працягваць барацьбу.

Нядаўна ў Жэневе адбылася Міжнародная канферэнцыя ў абарону правоў карэннага насельніцтва Амерыкі. Тут зноў паўстала пытанне аб цяжкім становішчы індзейцаў, аб праводзімай у адносінах да іх палітыцы генацыду і расавай дыскрымінацыі.

# З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### УЗНАГАРОДА ГЕРОЯ — БАЦЬКАМ

У клубе калгаса „Шлях да камунізму" Жыткавіцкага раёна сабраліся вяскоўцы. Па даручэнню Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР старшыня Жыткавіцкага райвыканкома М. Дамаркоў уручыў Міхаілу і Вользе Мароз Ордэн Чырвонай Зоркі, якім адзначаны подзвіг іх сына Міхаіла. Восенню мінулага года група вучняў Аршанскага педагагічнага вучылішча дапамагала калгасу „Прагрэс" Дуброўскага раёна капаць бульбу. Міхаіл Мароз стаяў на мастку бульбаўборачнага камбайна і сачыў, каб не засмечвала транспарцёр. Заўважыўшы, што па ім паўзе снарад, адважны камсамолец, не раздумваючы, схапіў яго і панёс ад людзей. Снарад разарваўся ў яго руках.

За мужнасць і самаахвярнасць, праяўленыя пры абясшкоджванні снарада, які застаўся з часоў Вялікай Айчыннай вайны, і выратаванне жыцця калгаснікаў і вучняў Міхаіл Мароз пасмяротна ўзнагароджан ордэнам Чырвонай Зоркі.

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**10 гадоў назад**

27 III 1968 у авіяцыйнай катастрофе пры выконванні трэніровачнага палёту загінуў першы касманаўт свету Юрый Гагарын (12 IV 1961 за 108 мінут абляцеў вакол Зямлі на караблі „Усход").

**110 гадоў назад**

28 III 1868 нар. Максім Горкі (сапр. Аляксей Максімавіч Пешкаў), рускі савецкі пісьменнік, пачынальнік савецкай літаратуры. Сын сталяра. Захапляўся беларускім фальклорам.

**35 гадоў назад**

28 III 1943 пам. Сяргей Рахманінаў, савецкі кампазітар, піяніст, дырыжор, аўтар выдатных твораў розных жанраў, адзін з найвыдатных выканаўцаў у сусветным піянізме.

**15 гадоў назад**

29 III 1963 пам. Поля Гаявічынская, польская пісьменніца. Аўтарка „Дзяўчын з Наваліпак".

**125 гадоў назад**

30 III 1853 нар. Вінсент Ван Гог, галандскі жывапісец. Адзін з пачынальнікаў постімпрэсіянізму. Аўтар „Сланечнікаў".



*На выстаўцы прац А. Вэльса ў Арсенале.*

# ЖЫВАПІСЕЦ ЗЯМЛІ БЕЛАСТОЦКАЙ



(Працяг са стар. 1)

моцна ўпадабаў у сваім далёкім юнацтве!..

Такім чынам творчы круг завяршыўся, і ў яго вялікім тэматычным абсягу найбольшае і найважнейшае месца заняла наша Беласточчына. Пасля Кракава і Варшавы А. Вэльс некаторы час прабывае і малюе на Палессі, а ўжо ўвесь пасляваенны час пастаянна жыве і дзейнічае на Беласточчыне (спачатку ён доўгія гады жыў у вёсцы Дзікія каля Харошчы, а потым у горадзе Беластоку). Ён палюбіў наш рэгіён. Можа іменна таму, што вырас ён і выхаваўся ў вялікіх гарадах (А. Вэльс нарадзіўся ў 1902 годзе ў Варшаве), яму вельмі востра кідалася ў вочы абаяльнасць сельскіх краявідаў Беласточчыны. Ён знаходзіць маляўнічасць у самых нечаканых месцах, напрыклад, на звычайным загуменні („Вясковыя будынкі"). Пры гэтым патрапіць выказаць той асаблівы спакой і сталасць, што ўласціва нашаму вясковаму будаўніцтву. Наогул, сельскую колішнюю архітэктуру мастак успрымае як неад'емную, арганічную частку прыроды. Усё роўна, ці будзе гэта „белая хатка" ў сэрцы Белавежскай пушчы, бо ў пасёлку Чарлёнка, ці недзе сярод пагоркаў Сакольшчыны, маляўнічы стары млын у Красным каля Супраслі ці тыя ж Дзікія каля Харошчы. Бадай да гэтай жа ўлюбёнай мастаком архітэктуры трэба залічыць і плоцік каля дарогі, і стажок сена на лузе. Асабліва гэты стажок... Такі ўжо ён роўненькі, акуратненькі ды з такой дбайнасцю абкладзены пушыстым снегам. А прырода на карцінах мастака! Такая свойская, блізкая, родная. Але ўмытая, прыгладжаная ды прычасаная. У А. Вэльса калі рэчка, дык пераважна з лагодным паваротам, мяккім пясчаным плёсам, разложыстымі косамі шувару ды буйнай ляснай чашчобай на другім плане, а калі поле, то на роўненькіх загончыках жытка. Магчыма, што гэтая дакладнасць і старанлівасць у выкананні карцін вынікала з таго, што А. Вэльс доўгія гады працаваў настаўнікам жывапісу ў Пластычным тэхнікуме ў Супраслі і ў сваіх працах ён проста дэманстраваў сваім выхаванкам і прывіваў гэтым самым у іх аснову асноваў кожнага праўдзівага мастацтва — старанлівасць, дакладнасць, салідңасць і працавітасць. А мо такі ўжо быў яго асабісты мастацкі почырк?

І, зразумела, Белавежа. Заварожваючая краіна, пад уражаннем якой астаўся мастак да апошніх сваіх дзён. Явілася яна яму поўная замыславатых кампазіцый колераў і форм. Атакавала то прахаладдзю зелені поўнага лета, то гарачым полымем восені, рассцілалася перад ім то непраходнымі чорнымі багнамі, то вырастала каржакаватымі аграмаднымі вываратнямі. Ён знаходзіў у ёй самыя ўтульныя куточкі, каб потым вынесці адтуль на сваёй карціне жывое дыханне пушчы, як напрыклад, на палотнах: „Тапіла", „Багна ў пушчы", „Белавежскія дрэвы", „Асенні пейзаж з Белавежы", „Вывараценъ", „Вольхі" і дзесятках іншых. У кожным адчуваецца захапленне мастака прыродай, яе красой і магутнасцю.

А. Вэльс памёр у 1976 годзе. У яго багацейшай творчай спадчыне знаходзіцца каля 250 карцін, накідаў, эскізаў, замалёвак. Амаль палова іх была раскуплена любіцелямі яго таленту — пераважна беластаччанамі, шэраг прац трапіла да прыватных асоб у Варшаву, Люблін, а таксама ў Германскую Дэмакратычную Рэспубліку, Швецыю, Італію, Японію, шмат іх знаходзіцца ў музеях і дзяржаўных установах Беластока. Дэманстраваліся яны пры жыцці мастака на шэрагу выстаўках, а ў лютым месяцы бягучага года — у шасці залах „Арсенала". Выстаўка карыстаецца небывалай, як на беластоцкія ўмовы, папулярнасцю — яе наведалі тысячы людзей. І гэта натуральна: Аляксандр Вэльс быў і астанецца блізкім кожнаму з нас жывапісцам зямлі беластоцкай.

**Мікалай Гайдук**

Фота аўтара







**Улюбёны ў нашу прыроду ● Зямля, кроўю абмытая ● У гасцях над Шпрэвяй ● Літаратурная старонка ● Дарога ў бельскую школу ● Мала беластоцкага ● Як я падрыхтоўваю мясныя вырабы? — расказвае Хведар Вярэмчук ● Весткі з Кандраткаў, Кляшчэляў, Лукі, Бабікаў, Гайнаўкі, Гарадзіска, Тафілаўцаў, Шымкаў ● Конкурс у Задрыпанцы ● З пункту гледжання малпы ● Песня „Zabrałaś mi lato".**

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 25 III** — 9.00 Teleferie. 11.20 Pieśń Sałtanat — radz. dramat obycz. 13.50 Pr. dnia. 13.55 Dziennik. 14.05 Obiektyw. 14.25 Radzimy rol. 14.35 Pr. dla najmłod. 15.05 Proces optimum — I odc. 15.30 Wielka gra. 16.20 Latarnia czarnoksięska. 16.45 Wielki nóż — ameryk. dramat sens. 18.15 Sport. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Okruchy życia — fr. dramat obycz. 22.00 Hokej Polska — Japonia. 22.40 Dziennik. 22.55 Anna tysiąca dni — ang. dramat historyczny.

**Niedziela 26 III** — 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Disneyland — ameryk. film anim. dla dzieci. 11.45 Koncert wiosenny. 12.45 Widowisko dla dzieci. 13.30 Na szlaku Alleluja — western kom. USA. 15.50 Los. Dużego Lot. 16.00 Studio GAMA. 17.15 Tele-Echo. 18.15 Sport. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.40 Noce i dnie — odc. V. 21.45 Hokej Polska — Rumunia. 22.20 Rewia w Teatrze Muzycznym w Gdyni. 23.20 Max i ferajna — sens. film franc.

**Poniedziałek 27 III** — 8.55 Pr. dnia. 9.00 Kino Zwierzyńca. 9.55 Piórkiem i węglem. 10.20 Widowisko muz.-rozr. 11.35 Lew z końca świata — ang. film dok. 12.25 Rolnicze rozmowy. 12.55 Lew Krystian — odc. II filmu dok. ang. 13.45 Widowisko dla dzieci. 14.55 W starym kinie: Człowiek małpa — film prod. USA z serii „Tarzan". 16.15 Pr. rozr. 17.15 Gwiazda południa — sens. film ang.-franc. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. A. Wampiłow: Dom z widokiem na pole. 22.30 Pr. rozr. 23.00 Sport.

**Wtorek 28 III** — 11.00 Noce i dnie — odc. V ser. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Estrada folkloru. 15.30 Pr. dla seniorów. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio Mł. 17.10 Klub Dobrej Roboty. 17.40 Interstudio. 18.20 Człowiek i przyroda. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Saga rodu Palliserów — ser. 21.30 Świadkowie. 21.50 Sonda. 22.20 XYZ cz. I. 22.50 Dziennik. 23.05 XYZ cz. II.

**Środa 29 III** — 9.00 Teleferie. 11.00 Anna i komandor — radz. melodramat. 12.45 RTSS. Historia (sem. IV). 13.25 Wskazówki met. 14.25 W drodze do nowego. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Z wizytą w Operze Kijowskiej. 15.30 NURT — Muz. cz. II. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Pr. dla dzieci. 16.55 Wojsk. Film Dok. 17.30 Los. Małego Lot. 17.50 Siła uczucia — radz. kom. obycz. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Ballada o Cable'u Hogue'u — western ameryk. 22.35 Dziennik. 22.50 Magazyn teatralny.

**Czwartek 30 III** — 6.00 TRSS. Hist. (sem. IV). 6.30 Wskaz. met. 11.00 Cena szczęścia — dramat obycz. radz. 12.45 RTSS. Mat. (sem. II). 13.25 Fiz. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Kino Filmów Anim. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Ekran z Bratkiem. 18.00 Rep. wojsk. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Sierżant Anderson — ameryk. film krym. 21.30 Pegaz. 22.15 Współczesne życiorysy. 22.35 Dziennik.

**Piątek 31 III** — 6.00 RTSS. Mat. (sem. II). 6.30 Fiz. 11.00 Ptaki naszych nadziei — radz. dramat obycz. 12.45 TTR. Upr. roślin (sem. IV). 13.25 Hod. zwierząt. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — ped. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dla dzieci. 17.00 Opowieść o gnieźnieńskich organach. 17.30 Niespokojna miłość — odc. II ser. CSRS. 18.35 Magazyn motor. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Parada oszustów — odc. IV kom. krym. 21.40 Sygnały filmowe. 22.10 Dziennik. 22.25 Teatr Małych Form. H. Kajzer „Gwiazda".

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 24 III** — 7.20 Film fab. 13.10 Film fab. 17.45 Film fab. ser. I odcinek. 19.30 Panorama film. 21.05 Pr. estrad.

**Sobota 25 III** — 7.25 Film fab. — ser. I odcinek. 10.30 Film fab. 12.00 Hokej. Dynamo (M) — Spartak (M.). 15.00 W świecie zwierząt. 16.15 Filmy anim. 17.45 Film fab. — ser. 19.30 Konkurs piosenk. 21.00 Film dok.

**Niedziela 26 III** — 9.00 Film fab. 12.00 Hokej. CSKA — Skrzydła Rad. 14.30 Panorama międzynar. 16.15 Film anim. 16.40 Klub film. 17.50 Film fab. — ser. 20.30 Koszykówka. Mistrz. ZSRR.

# ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

# КІНО

**Białowieża** — W mroku nocy — USA 27 III. Nieproszeni goście — radz. 28—29 III. Kobieta w czerwonych butach — fr. 30—31 III.

**Bielsk Pod.** — Żołnierze wolności — radz. 27—28 III. Niedokończone zdanie — węg. 29—30 III. Historia miłości — hiszp. 31 III — 1 IV.

**Czyże** — Anna siostra Jany — czes. 27 III. Magiczny kamień — NRD 29 III — 2 IV.

**Dubicze Cerk.** — Filipek — NRD 27 III. Rewolwer Python 357 — fr. 29 III — 2 IV.

**Gródek** — Uśmiech — USA 27 III.

**Hajnówka** — Kobietka — radz. 27 III. Gang Olsena wpada w szał — duń. 28—30 III. Cyklop — bułg. 31 III — 1 IV. Rozumiemy się bez słów — czes. 2 IV.

**Milejczyce** — Cień zbrodni — buł. 27 III. Sacco i Vanzetti — wł. 28—29 III. Wniebowstąpienie — radz. 30—31 III. Gang Olsena na szlaku — duń. 1—2 IV.

**Michałowo** — Ponad strachem — fr. 27 III. Z przymrużeniem oka — USA 28—29 III. Profesor zbrodni — węg. 30—31 III.

**Narew** — Konie Valdeza — wł. 27 III. Opowieść o komuniście — radz. 28—29 III. Ptaki ptakom — pol. 30 III — 2 IV.

**Narewka** — Alicja już tu nie mieszka — USA 27 III. Anna siostra Jany — czes. 29—30 III. Wagon sypialny — jug. 31 III — 2 IV.

**Nurzec** — Tajemniczy blondyn w czarnym bucie — fr. 27 III. Adaś i Ola — czes. 28—29 III. Potop — pol. 30—31 III.

**Orla** — Opowieść o komuniście — radz. 27 III. Alicja już tu nie mieszka — USA 29—30 III. Jak car Piotr Ibrahima swatał — radz. 31 III — 2 IV.

**Rajsk** — Gdzie woda czysta i trawa zielona — pol. 27 III. Zerwana nić babiego lata — radz. 29—30 III. Konie Valdeza — wł. 31 III — 2 IV.

B.Z.Graf. Zam. nr 684. 7822 egz. N-4

СЯБРЫ „НІВЫ"

# Ад першага нумара і да сёння

У кастрычніку бягучага года лістаноша **Уладзімір Весялоўскі** будзе адзначаць не абы-якую гадавіну: чвэрць стагоддзя сваёй працы на пошце, а пошта ў Пасынках у гміне Бельск Падляшскі, на якой ён працуе, у той жа час адсвяткуе таксама дваццаціпяцігоддзе свайго існавання. Бо так ужо склалася, што ў той жа самы дзень, калі ў пахмурны кастрычніцкі ранак 1953 года з новаадкрытай пошты ў Пасынках былі адпраўлены ў шырокі свет першыя лісты, паштоўкі, грашовыя пераводы, пасылкі, тады і У. Весялоўскі ўпершыню ў сваім жыцці перакінуў цераз плячо торбу лістаноша і патупаў пешшу ад вёскі да вёскі і ад хаты да хаты па свайму раёну. І так з таго адлеглага часу тупае ён штодня і да сёння.

Мае на сваім рахунку сама меней 200 тысяч кіламетраў. Здорава, праўда! І не мала было розных здарэнняў на гэтым шляху: даводзілася, скінуўшы торбу, хапацца за вядро, каб тушыць пажар, пасобляць чалавеку ў дарозе, калі вось у возе лопнула ці фура з сенам перакулілася. А вось тыя, да прыходу на свет якіх ён выклікаў па тэлефону з Бельска хуткую дапамогу, ужо сталі ладнымі маладзіцамі ды мажнымі мужчынамі!..



— Людзі ў нас добрыя, сумленныя, — заўважае У. Весялоўскі. — Аднойчы здарылася мне, што разносячы грошы за малако, я пераплаціў Андрэю Сцепанюку ў Зубаве цэлую тысячу злотых. Што і казаць: сума немалая — гэта ж амаль палавіна майго месячнага заробку! Але Андрэй Сцепанюк — чалавек сумленны, не падкі на чужое. Заўважыўшы, што я памыліўся, ён — за грошы ды зараз жа пачаў шукаць мяне па вёсцы. Ідзе, перапытвае людзей, ажно сустракае аднаго зубаўца. Слова па слове, і Андрэй Сцепанюк расказаў яму, чаму шукае мяне. Той жа ў рогат: „Але ж і дурань ты, — кажа, — трапілася табе шчасце ў рукі, а ты ўжо прэш яго аддаваць!" Але гэта не пахіснула Андрэя Сцепанюка. Ён зараз жа знайшоў мяне і аддаў тую пераплачаную тысячу злотых. Ведаеце, калі бачу такіх людзей, як Андрэй Сцепанюк з Зубава, то аж цяплей на душы становіцца...

У. Весялоўскі — гэта вопытны прапагандыст газет і часопісаў. У яго раёне людзі выпісваюць: 65 экземпляраў „Газеты вспулчэснай", 40 экз. „Грамады — Рольніка польскага", 60 экз. „Гадоўлі жывёлы на гаспадарцы", 89 экз. „Пломыка" і па некалькі дзесяткаў іншых газет і часопісаў. Але самая папулярная тут — гэта наша „Ніва". У мінулым годзе было 122 яе падпісчыкі, а ў бягучым — ужо 136 асоб выпісвае наш тыднёвік, гэта значыць палавіна ўсіх сем'яў! А ёсць і такія вёскі, як напрыклад, Трашчоткі, дзе людзі „Ніву" выпісваюць амаль хата ў хату. **За вялікі ўклад у папулярызацыю „Нівы" рэдакцыя ўзнагародзіла У. Весялоўскага наручным гадзіннікам.**

— Люблю я „Ніву", — кажа ён. — Яшчэ памятаю, як яе першы экземпляр трапіў у мае рукі, з якім зацікаўленнем я яго чытаў, насіў з сабою, паказваў людзям і заахвочваў да падпіскі. І гэтае замілаванне і зацікаўленне, праўду сказаўшы, не згасла і па сённяшні дзень...

**(іс)**

Фота аўтара

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. ЛЯЧЭННЕ




Месцам ячменю з'яўляецца вока. Згодна з навукова-медыцынскай інтэрпрэтацыяй, гэта запаленне лоевай залозы берагу павекі. У народнай медыцыне, так як і ўсе іншыя хваробы, з'яўляецца нічым іншым, як вынікам уздзеяння ці пасялення злой сілы. Хвароба гэтая наогул не грозная. Да гэтага вываду людзі прышлі, відаць, надта рана, бо ад спосабаў лячэння засталося толькі ядро магічных дзеянняў, не гаворачы ўжо пра славесны тэкст. Найбольш, бадай, распаўсюджаным і да сёння бытуючым у народзе з'яўляецца завязванне ніткі. Трэба было толькі ўлавіць той момант, калі ячмень будзе рабіцца. А гэта было лёгка. Паяўленне ячменю папярэджвае характэрнае рэзанне ў павецы пры адкрыванні і закрыванні вока. Тады, каб не дапусціць да яго паяўлення, завязвалі на сардэчны і сярэдні палец нітку. Толькі завязвалі на руцэ, супрацьлеглай да хворага вока. Прыкладна, калі ячмень быў на левым воку, дык нітку завязвалі на правай руцэ. Нітка павінна быць ільняная. Потым, зразумела, гэта страціла значэнне і неістотнае было, з якога яна матэрыялу. Было гэта першае пахісненне ў вераперакананні ў паспяховасць.

Агульна вядомае таксама лячэнне ячменю золатам. Найчасцей выкарыстоўвалі пярсцёнак, таму што быў ён заўсёды пад рукой. Хворую павеку трэба было тры разы пацерці, але так, каб выконваць гэты рух у супрацьлеглым напрамку да руху сонца. За кожным разам пярсцёнак трэба было кідаць за сябе, не аглядаючыся. Падымала яго з зямлі другая асоба, дапамагаючая ў гэтым дзеянні.

Ячменю можна было таксама пазбыцца, калі доўга ўглядацца ў калодзеж, або калі выцерці вока рогам падушкі ці сваёй, ношанай, сарочкі. З тым толькі, што выконвалася гэта тры разы і „наодліў". Некаторыя засыпалі ў хворае вока цукар.

Больш цікавым і ў пэўным сэнсе таямнічым быў спосаб з зернем гароху або ячменю. Бралі зярнятка, абносілі тры разы вакол хворага вока, у супрацьлеглым напрамку да сонца, ды спальвалі потым у хлебнай печы. Спосаб з сённяшняга пункту гледжання надта просты. Але, калі задумацца над ім, дык, несумненна, прыйдзем да вываду, што ад яго застаўся толькі шкілет. Несумненна, спосаб гэты быў некалькі разбудаваны, і можна беспамылкова зрабіць вывад, што меў славесны тэкст. Пры кожным выкананым руху ды яшчэ пры дапамозе іншых прадметаў заўсёды гаварылі словы. Так было, прыкладна, пры лячэнні „пэрэляку", калі сеялі попел, пры лячэнні болю зубоў, ды і пры іншых многіх хваробах, аб якіх мы ўжо пісалі.

Ячмень лячылі таксама і пры дапамозе іголкі. Трэба было ўстраміць яе ў вопратку вастрыём угару, але з таго боку, на якім воку зрабіўся ячмень. Назіраецца тут адваротнасць да спосабу завязання ніткі.

Паспяховым спосабам пры лячэнні ячменю, спосабам, які яшчэ бытаваў некалькі год таму назад, была фіга. Убачыўшы чалавека з ячменем, трэба было так, каб той не спадзяваўся, сунуць яму пад вока фігу. Назіраецца тут сходнасць з лячэннем рожы пры дапамозе ўласнага калу. Было гэта не што іншае, як абрыджванне хваробы. Падсумоўваючы, трэба сказаць, што ячмень рана перастаў быць нейкай сур'ёзнай хваробай, што было прычынай занікання магічных спосабаў яго лячэння. Людзі перасталі верыць, што з'яўляецца ён вынікам уздзеяння злых сіл і ў сувязі з гэтым штораз радзей звярталіся да народных спосабаў лячэння.

— Як я замёрзла, ходзячы боса, то й ячмень выскачыў. Тут і ўся прычына, а не ў ніякіх там злых сілах, — гаворыць адна інфарматарка з Нарвы.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**







Чудак быў Ігнат, ой чудак. Як нешта часам учаўпе, як скажа нешта, дык хоч не хоч паверыш. Ва ўсё паверыш. Потым толькі, калі апамятаешся, плюнеш, скрыганеш са злосці зубамі, але што зробіш, сам вінаваты.

Якраз нядзеля была. На вуліцы: вядома, як святам, стаяць людзі ды і талкуюць аб нечым. Работа ж не гоніць, пастаяць можна. Аж і Ігнат ідзе, папяросу — неразлучную спадарожніцу ў зубах трымаючы.

— То вы тут, не ў горадзе? — спытаў, параўнаўшыся.

— А што? — перапытаў нехта.

— Не, нічога, так проста пытаю, бо з іншых вёсак едуць; аўтобусы дадатковыя далі. На прыпынку людзей аж кішма кішыць, — сказаў і пайшоў, выпускаючы за сабою клубы папяроснага дыму.

А сярод стаяўшых пачалася дыскусія. Што, маўляў, гэта такое можа быць? Нядзеля... Тут і ўсіх святых пералічылі. Не, ніякі царкоўны фэст быць не павінен. Звычайная нядзеля. Хапаліся ўсяго, што толькі ў галаву прыходзіла, але пасаваць нішто не пасавала. Але штосьці мусіць быць, бо сапраўды на прыпынку людзей поўна стаіць. І развязку даў Іван.

— Няйначай крамы адкрытыя і нейкая агульная паслясезонная пераацэнка тавараў, бо чаго б інакш ехалі?

І пачалі так пераконваць адзін другога, што ў канцы канцоў і сапраўды паверылі ў тое, што крамы адкрыты і абавязкова нейкая пераацэнка.

Пакуль Ігнат дайшоў да канца вёскі, дзе стаяла яго хаціна, на вуліцы было ўжо пуста. Стаў сабе Ігнат над плотам ды пакурвае. Аж бачыць, Іван ідзе, размахваючы рукамі, за ім Даніла. Зірнуў убок — Санечка загарадзямі суне. Стаіць Ігнат і пасмейваецца.

Паехала, бадай, з шасцёра. На аўтобус не паспелі, але якраз „Ныска" ехала. Знаёмы — дык затрымаўся.

— То і вы на цырк? — пытае, крыху ад'ехаўшы, шафёр. — Бо вунь СКР усім сваім працаўнікам білеты пакупляў. Туды аўтобусам паехалі, а назад, невядома ці пабярэ, дык мяне выслалі развозіць.

Сядзеўшыя глянулі толькі на сябе і згодна кіўнулі галовамі. А назад сапраўды аўтобусы не бралі. Пехатой вярнуліся. От фокус быў. Цэлы тыдзень у вёсцы смяяліся, як Ігнат мужчын у цырк выправіў.

А аднойчы з мяшком цуд выйшаў. Позна ўжо было. Людзі святло ў хатах

(Працяг на стар. 5)

(Працяг са стар. 1)

# ЖЫВЕ ПЕСНЯ Ў НАШЫМ НАРОДЗЕ

„Ой любів, той кахав" вее пушчай.

Нашыя заклікі не пайшлі на вецер, большасць выступаючых дбае не толькі пра свой рэпертуар, але амаль у такой жа ступені пра сваю вопратку, якая адыгрывае тут немалаважную ролю. Яшчэ і сёння ў вачах стаяць новыя чырвоныя боцікі меляшкоўскіх жанчын, вітаўскія саяны і цудоўны фартушок Ніны Такаюк.

Цешыць нас і тое, што не ідуць на марна песні, якія мы друкуем у беларускіх календарах і „Ніве".

Вяртаючыся да спраў музычных: ці дубяжынцы сапраўды мусілі ўводзіць у свой мужчынскі калектыў адну жанчыну? Іншая справа — калі б была яна салісткай, але ж гэтую ролю спаўняе наймацнейшы з дубяжынцаў Аляксандр Раманюк... Калі грымнулі хлопцы ўсе разам „Сабраліся сёння мы разам, каб родную славіць зямлю", далікатны жаночы голас патануў, быццам у студні, прабіваючыся толькі момантамі на паверхню.

Можа крыху слабей, чым заўсёды, выпаў сёлета гарадоцкі калектыў, які на працягу чвэрці стагоддзя сваёй дзейнасці ўжо паспеў прызвычаіцца да трыумфаў. Зрэшты, кожнаму, хто сутыкаецца ўпершыню з гэтымі спявачкамі, кідаецца ў вочы іх спеласць і рутына. Цешыць тое, што ўпэўненым крокам ідзе маладое пакаленне, а выраз гэтаму даў калектыў „Дзявочыя ноткі" з Бельскага беларускага ліцэя. Унёс ён у конкурс такую свежасць і дух маладосці, што калі на сцэну выйшлі дзяўчаткі ў цёмнасініх спадніцах і белых блузачках з ноткамі, ды праспявалі задушэўную „Дзявочую лірычную" на словы паэта А. Дзеружынскага з музыкай М. Шуміліна і „Што ты мне сэрца параніў" (словы Н. Тарас, музыка І. Сушко), зала выбухнула авацыяй. Быццам подыхам вясны, павеяла і тады, калі Тамара Ільяшук спявала песню „Надышла вясна" на словы Чорнага, з музыкай Г. Вагнера, ці гімн маці („Маці" — музыка Ю. Семянякі, словы А. Русака), і тады, калі ў дуэце з Люсяй Грайко спявалі яны нялёгкую „Не шукай" (словы А. Русака, музыка І. Любана). Хочацца верыць, што дзейнасць калектыву Бельскага белліцэя пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука не будзе пераходнай з'явай і што ўнясе ён трывалы здабытак у нашу песенную культуру.

Дае надзею таксама малады дуэт Ніны і Яўгеніі Вішанка з Мікуліч. Праспяваў ён дзве народныя песні „Мнуого ў полі тых доруожок" і „Шумят вэрбы", і нават без акампаніяменту маладыя галасы выпалі даволі цікава. Спадзяемся, што яго выступленне стане пачаткам добрых традыцый.

Жыве песня ў нашым народзе! І такі шматлікі ўдзел у фінальным конкурсе роднай песні гаворыць за тое, што песеннае мастацтва ўрасло ў нашу глебу трывала.

**Ада Чэчуга**

Фота М. Шаховіча.



*„Дзявочыя ноткі" ўнеслі ў конкурс дух маладосці...*

 

**Беларуская літаратура** — **Аляксандар Баршчэўскі**

# Нашаніўская пара

**ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА XXI**

**Пейзажныя творы.** Адным з найлепшых пейзажных твораў Бядулі з'яўляецца верш „Успаміны". Складаецца ён з васьмі частак. Заключае ў сабе больш чым сутачны цыкл: ноч, раніцу, дзень, вечар і зноў ноч. Са зместу відаць, што верш напісаны на падставе ўражанняў, вынесеных з таго часу, калі пісьменнік вартаваў купецкі лес па сплаве. Увесь твор мае рэфлексійны характар. Складаецца ён з васьмі каляровых замалёвак.

Першая частка гэта пануры малюнак ночы: „Ноч у кажуху туманным. Ані месяца, ні зорак". Герой успамінае непрыемныя здарэнні. Другая частка — гэта каляровае апісанне раніцы. Настрой гэтай замалёўкі абсалютна супрацьстаўны папярэдняму.

*Раніца. Не гуслі — гэта раніца.*
*Агні гараць над рэчкаю — агні.*
*Грайніца — жаўранкавая грайніца.*
*Звіні, сыр-бор! Вяршынямі звіні!*

Паэт атоесамліваецца з пейзажам. Звяртаецца да прыродных з'яў, вядзе з імі дыялаг. Заахвочвае да акрэсленых дзеянняў: „Крычы, абшар, ад радасці крычы!" З трэцяй часткай зноў звязана раптоўная змена настрою. Тут паэт апісвае гарачы летні дзень. Неба здаецца яму распаленай бляхай. І жывёла, і людзі, і расліны становяцца ахвярамі бязлітаснай гарачыні. Да лянівага настрою прадстаўленага пейзажу не вельмі падыходзіць стылістыка і форма гэтай часткі твора. Утрыманы ён тут у дынамічнай, амаль частушачнай танацыі.

Чацвертая частка „Успамінаў" гэта васьмірадковы зварот аўтара да ветру, які павінен прыгнаць на зямлю дажджавую хмару.

У пятай частцы апісана набліжэнне буры, дажджу, і грому. Тут як бы магічна пачынае рэалізавацца тое, аб чым прасіў паэт у папярэдняй частцы.

Шостая частка гэта глыбока хвалюючая і высока мастацкая характарыстыка буры і дажджу.

У сёмай частцы мала фатаграфічных момантаў. Выступае ў ёй рэфлексійнасць, малюнак настрою, уяўленняў і намераў, звязаных з прыродай. Форма гэтай часткі верша захапляе беззаганнасцю.

*Пайду дзівіцца я на летні вечар.*
*Над пушчай грае зборышча зарніц.*
*У рэчку ўтапілася іх веча*
*І гарыць.*
*Пайду дзівіцца я на цень самотны.*
*Смуглеюць там бярозы ува сне.*
*Зашэпча, скалыхнецца дуб вільготны*
*І засне.*
*Пайду дзівіцца я на спеў начлежны,*
*Дзе коні путамі жалезнымі звіняць,*
*Дзе зоркі запаліліся ў бязбрэжжы*
*І дрыжаць.*

Не менш прыгожая і апошняя, заключная частка верша. Настрой ночы тут зусім іншы, чым у першай частцы. Усё тут светлае, гарманічнае і радаснае. Прырода і чалавек маюць тут адну душу. Іх патрэбы, густы і мэты аднолькавыя.

Зусім па-другому прадстаўлены адносіны між прыродай і чалавекам у вершы „Спякота". Аўтар паказвае летні пейзаж праз прызму засухі. Прырода не дае селяніну таго, аб чым ён марыць, — дажджу. З гэтай прычыны ва ўяўленнях селяніна рысуецца прывід голаду.

Да тыпова асенніх твораў належаць вершы: „Восень" і „Б'ецца восень халодная ў рэчную шыбу...".

У адным, і ў другім творы пісьменнік канфрантуе асенні пейзаж з сваімі адчуваннямі, або сваімі заняткамі. У адваротнасці да многіх паэтаў, якія захапляліся каларыстыкай асенняга пейзажу, у вершах Бядулі не знаходзім такога захаплення. Наадварот, восень здаецца яму нецікавай і непрыхільнай чалавеку. Яго асеннія вершы гэта галоўным чынам пералік, рэестр адмоўных рыс восеньскай пары.

Амаль усе пейзажныя вершы Бядулі адзначаюцца эмацыянальнасцю. Пісьменнік часта спалучае прыродныя з'явы з чалавекам. Характэрнай рысай вершаў гэтага цыкла з'яўляецца прыём антрапамарфізму, адухаўлення прыроды. Зразумела, што не ўсе яго пейзажныя творы маюць адну і тую ж самую вартасць. Аднак некаторыя з іх прадстаўляюць сабой высокі мастацка-паэтычны ўзровень.

(Працяг са стар. 1)

## Дарога Дарожак

маёй прафесіяй праца ўсюды... Лепш аднак нідзе я не знайду.

Яго маці — даярка. За мінулы год зарабіла ў спулдзельчай аборы амаль 140 тысяч злотых. (так: сто сорак тысяч!).

І гэта амаль што чысты даход, бо на штодзённае ўтрыманне зусім дастаткова таго, што дае членам спулдзельні прысядзібная дзялянка.

— Супольны даход нашых спулдзельцаў за мінулы год, — інфармуе старшыня Вішнеўскі, — склаў суму 6.863.329 злотых, з чаго раздзялілі мы між нашымі членамі 4.271.550 злотых, або, інакш кажучы, па 150 злотых на адзін працадзень.

Толькі трэба ведаць, што гэтых „працадзён" можна было зарабіць па некалькі ў дзень. Для прыкладу: у Валі Трахімчук — 925, у Марысі Ярашук — 814, у Пятра Васілеўскага, які ў Дарожках працуе абаровым, амаль 1000 гэтых „працадзён". Старшыня Вішнеўскі таксама лічыць сваю зарплату ў працаднях — па два ў дзень. Кіраўнік прадукцыі, Мікалай Шпіца, нават сароміцца прызнацца, колькі ён зарабіў. Затоеганарыцца сваімі дыпломамі вышэйшых навучальных устаноў. Першы дыплом сцвярджае, што ён інжынер, а другі прысвойвае яму званне магістра. Абодва атрымаў, працуючы ў спулдзельні.

— Хацеў бы я ведаць, — з гонарам заяўляе старшыня Вішнеўскі, — ці знойдзецца ў нас на Беласточчыне іншая вясковая гаспадарка, якая змагла б прадаць дзяржаве з кожнага гектара зямельных угоддзяў харчавых прадуктаў — мяса, малака і збожжа — на суму 68 тысяч злотых, у якой адзін чалавек даў бы гэтых прадуктаў на суму 277 тыс. злотых? Ёсць такая гаспадарка?!

Вось і асноўная прыкмета 25-гадовай дарогі Дарожак.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара


*Звонку не ўсё можна адгадаць...*


*Спулдзельня падвяла гадавыя падлікі. Справаздачу чытае старшыня Аляксандр Вішнеўскі.*

# ЖАНЧЫНЫ — НАША СІЛА

**З III ЗЛЁТУ АКТЫВУ ВЯСКОВЫХ ЖАНЧЫН**

Ці можа быць добрая гаспадарка без гаспадыні?

Не, не можа. Вядомая гэта справа. Нездарма ж кажуць: якая гаспадыня, такая і яе хата. Прымаўка гэта адносіцца даслоўна да ўсёй гаспадаркі. Калі гаспадыня спрытная, умелая, ахвочая да працы, дык і гаспадарка ў яе не абы-якая.

Але ўсе жанчыны ведаюць, што мала **хацець** добра гаспадарыць, трэба яшчэ **умець.** А гэта значыць, трэба вучыцца. Вучыцца рацыянальна і з толкам карміць сям'ю, вырошчваць гародніну і збожжа, гадаваць і даглядаць жывёлу так, каб пры найменшых выдатках атрымліваць найбольш малака, мяса, яек, воўны. Апрача таго, кожная добрая гаспадыня хоча выкарыстоўваць у сваёй гаспадарцы ўсё новае, што толькі паяўляецца і што аблягчае працу і ўпрыгожвае жыццё.

Навучыцца ўсяму гэтаму ў вясковых умовах амаль немагчыма аднаму. Таму такой папулярнасцю карыстаюцца ў вёсцы гурткі вясковых гаспадынь. Сабраўшыся групай, можна арганізаваць розныя патрэбныя курсы, пачынаючы ад гатавання, кройкі і шыцця, а канчаючы на сельскагаспадарчым і агульнаасветным навучанні. І ўсё гэта з канкрэтнай практыкай у сваім доме і на сваёй гаспадарцы.

А ўжо сабраўшыся разам, як паказвае практыка, жанчыны не толькі вучацца, але і адпачываюць супольна. Такім чынам узнікаюць жаночыя харавыя калектывы. Адны спяваюць старыя песні, іншыя ставяць цэлыя сцэнкі з вясковага жыцця. Самі абмяркоўваюць сцэнарый, самі выконваюць ролі, падбіраюць песні. І дзякуючы гэтаму беластаччане сёлета маглі захапляцца такімі спеўнымі жаночымі групамі на конкурсе беларускай песні, як хоры з Мялешкоў, Арэшкава, Вітава, Орлі і іншых.

Жанчыны калектыўна адхоўваюць куранят і цялят, удзельнічаюць у конкурсах на найпрыгажэйшы агарод, на найчысцейшы двор і шмат, шмат іншых.

І столькі актыўнасці ў вясковых жанчын, столькі энтузіязму, што прыціхаюць пад іх напорам заўсёды падкія камандаваць мужчыны. Здараліся, праўда, выпадкі, калі мужы, спалохаўшыся актыўнасці жонак, забаранялі ім, ну, скажам, спяваць у хоры. Але мужоў такіх вельмі мала, а калі ўжо і здараюцца, дык толькі як перажыткі адсталай мінуўшчыны.

Аб усім гэтым расказвалі жанчыны на III злёце актыву вясковых жанчын. Там сабраліся найлепшыя гаспадыні, з найбольшымі дасягненнямі на гаспадарцы і ў выхоўванні дзяцей. Жанчыны расказвалі нашым уладам (у прэзідыуме былі высокія госці з Варшавы і Беластока), як ім жывецца, працуецца, што дапамагае і што перашкаджае ў штодзённай цяжкай працы. Гаварылі не толькі аб сённяшнім дні, але і аб тым, якім хацелі б бачыць сябе і сваё сяло ў будучыні, як стараюцца разбудоўваць гаспадарскія магчымасці свайго двара, як павялічваюць прадукцыю, расказвалі, як мараць, зарабіўшы з продажу прадуктаў сваёй спецыялізаванай гаспадаркі, пабудаваць новы прыгожы дом з кранамі і ваннай, з прыгожай мэбляй і практычнымі абсталяваннямі хатняга ўжытку. Мараць і працуюць, вучацца і стараюцца.

Працавітасць і актыўнасць вясковых гаспадынь — праўда, знаная нашым уладам. Доказам гэтага быў і сам злёт, вельмі ўрачысты і ўзнёслы, і падзякі жанчынам ад Цэнтральнага і Ваяводскага камітэтаў партыі, і аж 32 ганаровыя дыпломы I сакратара ВК партыі за выдатныя поспехі ў вядзенні гаспадарак і выхоўванні дзяцей для найлепшых сямей. Сярод узнагароджаных — Ванда і Сымон Альштынюкі з гміны Боцькі, Тэрэса і Вацлаў Белашэвічы з гміны Кузніца Беластоцкая, Крысціна і Ян Багушэўскія з Верценя (гм. Сямяцічы), Яўгенія і Ян Богушы з гміны Нараўка, Тэрэса і Баляслаў Чарэмхі з гміны Шудзялава, Мелена і Валянцін Карольчукі з гміны Заблудаў, Аля і Сяргей Мінчукі, а таксама Валянціна і Ян Паплаўскія з Гарадка і іншыя.

Усе яны, ды і ўсе вопытныя гаспадары, бачаць вялікія шанцы для сваёй гаспадаркі ў спецыялізацыі прадукцыі. А каб яна, спецыялізацыя, давала вынікі, трэба шмат вучыцца, шмат працаваць, ды яшчэ весці дом, выхоўваць дзяцей так, каб нас годна выручылі на старыя гады і каб добра было ім гаспадарыць, а нам цешыцца імі.

Дык за работу, бабанькі!

**Яніна Чэрнякевіч**

**Гутарка дзядзькі Максіма**

# Што ў падтрымку?

Пад канец лютага адбыўся сход партыйнай арганізацыі нашай вёскі. Сход быў адкрыты, даступны, значыць, для кожнага селяніна, ці ён партыйны, ці не, але мяне як раднага гміннай рады сакратар запрасіў спецыяльна, хаця і без запрашэння я не прапусціў бы гэтага сходу, бо пра яго гаварылі ў нас ужо ад ваяводскай справаздачна-выбарнай партыйнай канферэнцыі, у час якой у члены ваяводскага камітэта партыі выбралі таксама жыхара нашай вёскі, якога мы між сабой называем Цівуновым Мікалаем. З яго добры гаспадар і смелы дзеяч. Нікога не пабаіцца і праўду ў вочы выгарне. Гэта ён у нас першы даказаў на практыцы, што і звычайны гаспадар, які мае не больш дзесяці гектараў зямлі, зможа гадаваць не дзве-тры худыя красулі, як было раней, а сем малочных кароў, трое цялят і яшчэ пару бычкоў. Ён таксама першы ў нашай вёсцы пабудаваў вялікую абору і не пабаяўся ўзяць амаль паўмільёна злотых дзяржаўнай пазыкі на свае капіталаўкладанні.

Я не адзін раз адчуваў ціхую зайздрасць, калі даводзілася пабываць у яго на панадворку, або і ў хаце. Хата, праўда, у яго яшчэ бацькоўская, драўляная, але прасторная і ён яе абсталяваў па-сучаснаму: правёў ваду, падключыў цэнтральнае ацяпленне, абсталяваў новую гарадскую мэблю. Залаты Крыж Заслугі, а цяпер, бачыце, як яго дацанілі: у члены Ваяводскага камітэта партыі выбралі! Вось сапраўдная народная дэмакратыя: кожнаму па яго заслугах.

Сход быў людны.

Першы выступіў сакратар партыйнай арганізацыі, які слушна заявіў, што сяляне нашай вёскі, так партыйныя, як і беспартыйныя, аднадумна падтрымоўваюць пастановы ваяводскай канферэнцыі. Мы яму адказалі згоднымі воплескамі, бо толькі найбольшы дурань адмаўляецца ад імкненняў, каб жыць лепш, каб лепш працаваць.

Пасля чытаў даклад прадстаўнік ваяводскіх улад. Даведаліся мы пра новыя фабрыкі, школы, бальніцы, пра пабудову кватэр і пра многія іншыя рэчы. Распачалася дыскусія. Першы ўзяў голас Цівуноў Мікалай.

— Гаварыў я вам ужо пра тое, што наша дзяржава кожны год выдае 700 мільёнаў долараў на пакупку збожжа і кармоў. Ці кожны з нас падумаў пра тое, што трэба зрабіць, каб гэтая валюта асталася ў нашай краіне? Ці цяжка да двух кароў паставіць яшчэ адно цялё? Ці нельга да некалькіх парсюкоў дакласці яшчэ пару парасят?

— Вазьмі і далажы, — адгукнуўся нехта з залы, — калі за кожны мяшок кармоў трэба проста біцца ў ГСе!

— Бо свой корм трэба мець, — адказаў яму Мікалай. — Кукурузу трэба сеяць, буракі садзіць, сена сіласаваць... Гавару я гэта з уласнага вопыту...

Пасля яго да голасу дарвалася мая Палашка.

— Ад імя гуртка вясковых гаспадынь, — шчабятала яна, — я заяўляю, што мы, жанчыны, свядомыя справы, бо прайшлі школу грамадска-палітычнага выхавання, пастанаўляем, што кожная з нас у сваёй гаспадарцы дадаткова выгадуе па аднаму парасяці і па 10 курэй. Мы ж не ад мачахі, каб быць горшымі!

Я глядзеў на яе і не ведаў, ці мне цешыцца, ці злавацца. На роздум, аднак, не асталося часу, бо зараз жа сакратар і мяне выклікаў да голасу.

— Я не супраць гэтых вялікіх і заманлівых планаў, — пачаў я сваё выс-



 




# Сцяпан Філіпчук

Сцяпан Філіпчук з Новай Волі — перадавы гаспадар у Міхалоўскай гміне. Найперш паклапаціўся ён пра сельскагаспадарчыя будынкі — мураваную стадолу і прасторную абору. Абору механізаваў, а таксама падключыў да яе ваду. Гадуе свіней і кароў. Для іх спрактыкаваны жывёлавод забяспечвае адпаведную колькасць добрых кармоў. Гэта перская канюшына, чырвоная канюшына, буракі „поліпасты", квашаная бульба, сіласы з травы і кукурузы. На кармы ідзе шмат вотруб'я і бульбы. Важна, што бульбы ўдаецца сабраць і па 300 цэнтнераў з гектара.

У студзені гэтага года Сцяпан Філіпчук прадаў 36 сямімесячных падсвінкаў для ПОЗГ і праз пяць месяцаў прадасць яшчэ 29. Апрача таго, у маі даставіць для далейшай гадоўлі для СКР у Юхноўцы 40 вархлякоў вагою да 45 кілаграмаў кожны. Усе ад сямі пародзістых свінаматак.

Нававольскі вопытны гаспадар завёў у сябе высокапародзістых кароў. Усе — ад аднае ўдачнай, якую некалькі гадоў таму назад купіў для гадоўлі за 16 тысяч злотых. За першую ялавіцу вагою ў 535 кілаграмаў, якую купілі ў Венгрыю, атрымаў каля 40 тысяч злотых. 6 лютага прадаў другую вагою ў 510 кілаграмаў за 27 300 злотых. Абедзве былі ва ўзросце 23 месяцаў. Другая не пайшла на экспарт, бо зімою не бяруць. Трэцюю таксама пароды „нцб" пакінуў сабе для далейшай гадоўлі.

Каб аблегчыць сабе працу ў полі, Сцяпан Філіпчук у канцы мінулага года купіў новы трактар, а пасля некаторыя сельскагаспадарчыя машыны.

За гаспадарку ўзяўся таксама яго сын Аляксандр, выпускнік міхалоўскай школы механізацыі сельскай гаспадаркі, які таксама, як і бацька, закончыў сельскагаспадарчы курс на званне кваліфікаванага гаспадара. Навесну ён пачне будаваць сабе мураваны дом. Падмурак пад яго быў ужо гатовы ў мінулым годзе.

**Я. Целушэцкі**
Фота М. Хмялеўскага






# Беларуская паэзія

## ў гадах 1941-1945

„Пра беларускую савецкую паэзію перыяду вайны 1941–1945" — пад такім загалоўкам быў змешчаны ў „Acta Universitatis Vratislaviensis No 381" за 1977 год артыкул Тэлесфара Пазнаняка. Не з'яўляецца ён падрабязным аглядам ці нейкай спробай глыбейшага аналізу, гэта толькі павярхоўная замалёўка беларускай паэтычнай творчасці спамянутага перыяду, спроба набліжэння яе польскаму чытачу. Аўтар паказвае на блізкасць яе польскаму народу, паколькі вайна моцна зблізіла лёсы гэтых суседзяў. Артыкул Пазнаняка — гэта паказанне ролі беларускай паэзіі ў II сусветнай вайне. Аўтар паказвае той фронт, дзе галоўнай зброяй з'яўляецца пяро. Паэзія была тым відам літаратурнай творчасці, якая найхутчэй і найбольш трапна зарэагавала на агрэсію гітлераўцаў. Дае ён кароткі агляд паэтычнай творчасці гэтага перыяду, затрымоўваючыся над творамі М. Танка, Я. Купалы, Я. Коласа, П. Панчанкі, А. Куляшова, П. Броўкі, П. Глебкі. Паказвае яе развіццё, змену герояў і формы, паяўленне новых відаў. Калі ў пачатку вайны была гэта толькі і выключна агітацыйная лірыка тыпу „Беларускім партызанам" Я. Купалы, дзе галоўнай мэтай была нянавісць да акупанта і заклік на барацьбу ды бязлітаснае знішчэнне, ці „Беларусь" М. Танка, у якім аўтар можа не так непасрэдна, як яго папярэднік, а больш апісальна вядзе да закліку, бо спалучае ў адзін паэтычны вобраз і прыроду, і гісторыю, і народ, і яго геройства, дык з часам пачалі паяўляцца новыя віды, новыя героі ды спробы іх псіхалагічнага аналізу. Бліжэй да канца вайны ў беларускай, як і ў савецкай паэзіі, пачалі паяўляцца гімны, балады, у якіх наступае спалучэнне рамантычнай паэтыкі з рэалістычным апісаннем франтавых падзей. Ад балады ўсяго толькі крок да паэмы, якая пачала развівацца ў гадах 1942-1945. Гэта найбольшае дасягненне беларускай паэтычнай творчасці гэтага перыяду. Аўтар праводзіць кароткі агляд паэм. Даўжэй затрымоўваецца над „Сцягам брыгады" А. Куляшова, які гісторыкі літаратуры лічаць найлепшай паэмай.

Не прамінае маўчаннем і масавай паэзіі, якая стаіць на мяжы паміж літаратурай і фальклорам. Гэта сатыра, рыфмаваны фельетон, прыпеўкі, анекдоты. Распаўсюджвалі іх пры дапамозе газет, лістовак, пускалі па радыё. Тыповай з'явай была таксама аматарская творчасць. Часта на аснове літаратурных ці фальклорных твораў салдаты ды партызаны будавалі свае ўласныя.

Галоўнай рысай беларускай, так як і савецкай, паэзіі была монатэматычнасць, зразумела, у добрым значэнні гэтага слова. Вайна была страшнай трагедыяй, і з ёй трэба было ўсімі сіламі змагацца.

**М. Шаховіч**




*КАЛЯДНАЯ*




*А ў пана Ондрэя стояла каліна*
*гэй, коляда!*
*стояла каліна.*
*Пуд тэю каліной Гандюля стояла*
*гэй, коляда!*
*Гандюля стояла.*
*Гандюля стояла, каліну ламала*
*гэй, коляда!*
*каліну ламала.*
*Каліну ламала, у пучэчкі вязала,*
*гэй, коляда!*
*у пучэчкі вязала.*
*У пучэчкі вязала, батэнька пытала,*
*гэй, коляда!*
*батэнька пытала:*

*— Чы буду такая, як каліна тая?*
*гэй, коляда!*
*як каліна тая.*
*— Будэш, дыте, будэш, як у мэнэ будэш,*
*гэй, коляда!*
*як у мэнэ будэш.*
*Як од мэнэ пойдэш, як папіэр збіелееш,*
*гэй, коляда!*
*як папіер збіелееш.*
*Як папіер збіелееш, як рута совянэш,*
*гэй, коляда!*
*як рута совянэш.*

Ад Сцепаніды Вашчук, 1913 года нараджэння, і Надзеі Рыбачук, 1931 года нараджэння, вёска Быстры гм. Боцькі, запісаў 13 студзеня 1978 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя Людмілы Панько.

ГМІННЫЯ НАВІНЫ

# У Міхалоўскай гміне...

...існуе 2 237 індывідуальных гаспадарак. Аднаасобныя гаспадары апрацоўваюць 16 710 гектараў зямельных угоддзяў. Збожжам абсяваюць 6 355 га і бульбу садзяць на 2 100 га. Атрымліваюць ураджаі чатырох збожжавых культур у сярэднім па 21 цэнтнеры з гектара і бульбы 202 ц.

Сяляне з міхалоўскай акругі гадуюць 9 203 каровы і 10 777 свіней. Найлепшымі жывёлаводамі з'яўляюцца: Ян Тарасевіч і Аляксандр Бельскі з Пянькоў, Яўген Грыка з Азяблаў, Антон і Зыгмунт Гансоўскія з Казімерава, Сцяпан Філіпчук, Ян і Мікалай Серада і Анатоль Мархэляк з Новай Волі, Ян Казбярук з Юшкавага Груда і Валя Варона з Кабылянкі.

У гміне ёсць 35 спецыялістычных гаспадарак. Найбольш у Казімераве, Пяньках, Лявонавічах, Патоцы, Бандарах і Міхалове.

У 1977 годзе сяляне закончылі пабудову 19 абораў і 6 стадолаў. У тым жа годзе гаспадары з Міхалоўскай гміны прадалі дзяржаве 1 300 тон збожжа, больш 4 000 тон бульбы і звыш 10 000 літраў малака.

(ця)

(Працяг са стар. 3)




запалілі. Прыбег, засопшыся, да Міколкавага Кірылы — скупендзягі на ўсю ваколіцу, ды ад парога:

— Ты, пазыч мне мяшок, бо мае ўсе занятыя, а тут як назарэз патрэбны. Торф Дзям'ян аддае, бо перабіраецца ў горад да сына. Людзі па тры мяшкі бяруць, Хведараў возам паехаў, а мне то ён і вогуле не патрэбны, дроў хопіць, але от абы ласку ўчыніць, каб не падумаў, што ганьбую. Пазыч, як можаш.

— Калі, знаеш, і няма. Адзін з зеллем стаіць, у другім сечка, а з тых яшчэ і бульба не высыпана.

А Кірыла, як толькі за Ігнатам зачыніліся дзверы, фуфайку на плечы, укінуў у возік, што возіць зелле, тры мяшкі і паматыкаваў на тарфавіска. І толькі потым, калі ўбачыў, што не ано торфу, але і следу, што ён тут быў, няма, успомніў, што Дзям'ян летась вогуле не капаў.

А ў вёсцы гаварылі, што Кірыла зусім праз сваю скупасць здурэў. Невядома чаго па полі з мяшкамі бегае.

Найцікавей было, калі Ігнат захацеў аднавяскоўцам дабро зрабіць. Купіў бочку піва, бадай літраў сто, вынес у адну нядзелю на панадворак і давай частаваць. Хто толькі ідзе вуліцай, дык і заклікае. Пачаткова людзі думалі, што гэта новае ашуканства, ну бо хто ж гэта бачыў — ні дай, ні вазьмі піва дарам раздаваць. Але ж не — добрае піва і дарам. Пра заплату і слухаць не хоча, злуе.

— Піце, піце наздароўе.

І пілі. Пачаткова культурна. Вып'е той-сёй кубачак і стане скромненька з боку, пакуль Ігнат зноў не прыпросіць. Але, калі піва пачало сваё рабіць, дык і скромнасць прапала. Па галовах пачалі лезці, абы хутчэй да бочкі. Нават пасудзіна свая паявілася — у каго квартачка, у каго каструлька нейкая. Нават да Ігната пачалі кідацца, што, моў, як сядзіць каля бочкі, дык хай пільнуе чаргі, а не налівае каму папала! Чысты гармідар зрабіўся. Найгорш было, калі піва скончылася. Да бочкі лезуць, а наліваць няма чаго. Тады нават і Ігнат спалохаўся. А што думаеце, народ раз'ятраны. Ледзь адхрысціўся.

— Што вам, дзядзьку, у галаву прыйшло? — пыталі потым Ігната.

— Ат, стары я ўжо, паміраць хутка, хацеў нейкае дабро людзям зрабіць. Мала то каго сваімі фокусамі пакрыўдзіў. Вось і падумаў выправіць усё гэта.

Ой, чудак быў Ігнат, чудак...

**Бізун**

тупленне. — Але здаецца мне, што найперш трэба ліквідаваць у нас балаган і нядбайнасць. Вось падключылі да вады адміністрацыйны будынак у нашым СКРы. Кожны з нас бачыў, як гэта рабілася. Дзесяць метраў канавы пяць чалавек капала два дні, а на дабавак побач стаяла велізарная капалка.

— Папсутая! — крыкнуў хтосьці з натоўпу. Я, не звяртаючы на яго ўвагі, гаварыў далей:

— А што чаўпецца ў аўчарні? Гэта таксама для нас не тайна. Колькі ягнят прыйшлося там выкінуць сабакам, бо яны, значыць ягняты, проста замерзлі зараз пасля родаў...

У гэты момант пачуў я рашучы шэпт сакратара: „Скарачайся, Максім". І я скараціўся: не сказаў болей ні слова, бо зусім збянтэжыўся і не ведаў, што маю гаварыць. Прадстаўнікі з ваяводства і з гміны развіталіся са мною неяк холадна, афіцыйна. Паплёўся я дамоў. А тут ля парога сустракае мяне Палашка і благаславіць:

— Ці ты з глузду з'ехаў, такія рэчы гаварыць на сходзе! Гэта ж не канструктыўная крытыка! Не ведзь што можа быць ад такой крытыкі.

І я здаецца ўжо гэта ўцяміў. Сапраўды, лёгка языком чужыя грахі варочаць, сваіх хібаў не бачыўшы.

**Максім Нурэцкі**

# „Музей" людской культуры

Нідзе хіба не пераваліць за дзень столькі людзей, колькі праз вакзал. Там безупынна поўна. І каля білетных кас, і ў буфеце (калі, зразумела, ён ёсць) і ў зале чакання, і па перонах ходзяць, і да прыбіральні шнурочкам у чарзе стаяць. Прыбіральня... Вось менавіта. Ці можаце сабе ўявіць, як можа выглядаць прывакзальная прыбіральня? Цікава, сапраўды цікава. Колькі яна функцыяў розных выконвае: і поштай з'яўляецца, і месцам для развіцця мастацкага таленту, асабліва ў галіне карыкатуры пэўных людскіх органаў, і школай „мастацкай паэтычнай творчасці", і распаўсюджвальніцай вулічнага фальклору, і паказчыкам людской культуры. Там адбіваецца ўсё, як у люстэрку. Кожная найменшая частка характарызуе яе наведвальнікаў. Вось менавіта такая універсальная прыбіральня стаіць у Бельску. Нічога дзіўнага, за 73 гады свайго быту ўсяму навучылі. Чаго толькі там не ўбачыш! Уваходзіш, быццам у нейкі хлеў, ды дзе там у хлеў! Цяпер у хлявах прыгажэй. Сцены пабеленыя, парадак. А там белізна толькі дзе-нідзе праблісквае праз мазаіку брудаты, нанесеная рукой „вулічных мастакоў". Усё роўна, як нейкая галерэя, паказваючая ўзровень людской культуры. А ўзровень, як відаць з гэтага, надта ж прымітыўны. За што толькі мусяць аглядаць гэта людзі, якія ў яе „ўпрыгожванне" аніякага ўкладу не ўнеслі. Які выхад? Хіба што паставіць вартаўніка, каб пільнаваў як дзень, так ноч. Толькі што пільнаваць — прыбіральню, ці культуру паасобных наведвальнікаў, каб не сказілася да канца? А можа ўладзіць нейкі лагер фальклярыстаў ці моваведаў? Вось бы мелі радасць пры расшыфроўванні насценных тэкстаў! Але калі б некаму прыйшло б у галаву стварыць музей прыбіральняў, дык са свайго боку рэкамендую бельскую прывакзальную. Арыгінальны экспанат.

(мш)

ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...у Беластоцкім ваяводстве ёсць каля 1500 гарадоў, вёсак і пасёлкаў, у тым ліку палова з іх налічвае менш 200 жыхароў.

...на Беласточчыне да 1990 года будзе пабудавана каля 110 тысяч кватэр — 400 тысяч ізбаў.

(ця)




ФОТА ПА ЗАКАЗУ Заказваў Ян Врублеўскі з сяброўкамі і сябрамі з блока з Бельска.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: А. працаваў на прадпрыемстве Д. У часе працы на яго наехаў аўтамабіль, які з'яўляецца ўласнасцю прадпрыемства Т. У выніку выпадку А. знаходзіўся паўтара месяца ў бальніцы, а праз два месяцы быў звольнены ад працы і лячыўся, прабываючы дома. Шафёр, які выклікаў выпадак, прыгавораны судом на турму. Прадпрыемства, на якім працаваў А., выплаціла яму аднаразовую кампенсацыю 5500 зл. Фактычна А. страціў значна больш, не лічачы пакуты. У выніку хваробы ён выдаў значныя грошы на заграцічныя лекі, а да гэтага не мог працаваць на сваёй гаспадарцы. У яго ёсць 3 га зямлі. Ці можа ён патрабаваць большай кампенсацыі, а калі так, то ад каго: свайго прадпрыемства, шафёра, ці прадпрыемства Т., на якім працуе шафёр?

АДКАЗ: Прадпрыемства, на якім працуе працаўнік, выплачвае пацярпеўшаму ў выніку выпадку ў часе працы кампенсацыю, з разліку 500 зл. за 1 працэнт трывалай утраты здароўя. Гэта значыць, што калі лекарская камісія прызнала 11% трывалай утраты здароўя, то прадпрыемства Д. выплаціла А. кампенсацыю, якая яму належалася па закону і больш ад яго патрабаваць няма асноў. Ад шафёра можна было б патрабаваць кампенсацыі толькі ва ўмовах, калі б ён выклікаў выпадак наўмысна, што з'яўляецца непраўдападобным. Калі шкода перавышае — 5500 зл., то А. можа патрабаваць заплаты надвышкі ад прадпрыемства, на якім працуе той шафёр.

## Вер-не-вер

Астроне! Мне прыснілася, што я знаходжуся недзе за граніцай у вялікім, цудоўным падарожжы. Навокал прырода дзіўнай прыгажосці — невысокія ўзгоркі, паросшыя густой зеленню, рэкі — усё, як на прыгожай паштоўцы. Да маёй свядомасці даходзіць, што я ў Англіі. (Чаму ў Англіі? — Я ж там была і ніякай прыгажосці ў прыродзе не заўважыла, наадварот — палі, палі, пустыя і сумныя, а лясоў не бачыла нават на лякарства...). У пэўным моманце даведваемся (мы ж там былі ўсёй сям'ёй), што наша група экскурсантаў паедзе ў Лондан, каб наведаць палац каралевы Елізаветы. Я пачынаю памаленьку збірацца. Гляджу: ад'язджае адзін аўтобус, поўны экскурсантаў. Я спакойна збіраюся далей, бо перакапана, што наступная група паедзе толькі заўтра. Аж тут бачу: пад'язджае другі аўтобус, усе садзяцца ў яго, весела смяюцца і пытаюцца, чаму мы не едзем. А мы ж яшчэ не сабраліся... Дык я кажу, што прыедзем пазней машынай. Вяртаемся мы ў свой пакой, і бачу я там тры незасланыя ложкі. Пасцель была падрыхтавана да сну. І я падумала: добра, што ложкі незасланыя, як вернемся, дык адразу кінемся спаць... Што б гэты сон мог значыць?

**Алена з Беластока**

**Алена!** Сон твой абазначае, што ў нейкіх тваіх планах і паспяховым завяршэнні спраў можа перашкодзіць табе хвароба (падарожжа за граніцу абазначае добры паварот у тваіх справах і, калі б не тыя разасланыя ложкі...).

**Астрон**




Дарагое Сэрцайка, звяртаюся да цябе за дапамогай, бо нарабіла сабе клопатаў, замуж выходзячы. Не паслухала мамы, калі яна не дазваляла мне за Геніка выходзіць, за тое, што ён п'е. Але мне было тады толькі 18 гадоў, кахала я Геніка, света за ім не бачыла. Толькі цяпер, нацярпеўшыся, я бачу, што я нарабіла. Цяпер у нас ужо ёсць двухгадовая дачка. Муж яе вельмі любіць, але што ж, калі за сябрамі-п'яніцамі і для яе часу не мае. Прапівае грошы. І каб не бацькі, я б канца з канцом не звязала, хаця калі цвярозы — то добры і чуллівы. А казаў жа, што як будзе дзіця, пакіне сяброў, піць перастане. Я верыла, чакала і дзіцяці і змены ў нашым жыцці. Але маной яго словы аказаліся. Як пачаў абліваць нованароджанае, дык і канца не было. І няма і цяпер праз гарэлку дабра ў нас. Аднойчы ўжо сказала, што пакіну, развод вазьму. А ён, п'яны, мне на гэта: „Бяры, хутчэй бяжы". А пасля перапрашаў, абяцаў паправу. І шкада мне яго стала. Шкада і дзіцяці, што без бацькі будзе. Ды і сама я яго кахаю. Што тады рабіць мне, беднай? Аня

Аня! Маладыя дзяўчаты бескрытычны да сваіх партнёраў. Ніякіх адмоўных рыс у іх не бачаць, ды і рады другіх не слухаюць. Так і ты. Як жыць? Бяда ў цябе праз п'янага мужа. Тады астаецца супрацьалкагольнае лячэнне. Гэта адзіны выхад. Калі не згодзіцца на гэта — узяць развод.

**Сэрцайка**






*Разьба па дрэву. Слухавое аконца. Вёска Войшкі гм. Юхновец Дольны.*

*Фота М. Гайдука.*




ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# На святочны стол

### ЯЕЧКІ, ФАРШЫРАВАНЫЯ СУШАНЫМІ ГРЫБАМІ, ПАД МАЯНЕЗАМ

На 10 яечак трэба ўзяць 4 дэкі сушаных баравікоў, цыбуліну, соль, перац, чайную лыжачку муштарды, 4 лыжкі маянезу, зялёнае лісце парэя для ўпрыгожвання.

Вялікія свежыя яечкі зварыць і астудзіць. Грыбы памыць і зварыць у малой колькасці вады, дадаючы цыбулю. Зліць вывар, грыбы, цыбулю і жаўткі, вынятыя з разрэзаных напалову яечак, прапусціць праз мясарубку. Атрыманую масу дакладна расцерці лыжкай, дадаючы муштарду, а калі атрымаецца занадта густая, дык і лыжку смятаны. Дадаць солі і перцу. Масу накладаць у палавінкі бялка лыжачкай так, каб была яна крыху выпуклая. Палажыць яечкі на талерку, а пад іх (каб добра ўкладаліся) якую-небудзь салату з гародніны — напрыклад, з селераў. Яечкі паліць маянезам, прыбраць наўкос нарэзанымі лісточкамі парэя, марынаванымі грыбкамі ці агуркамі, памідорамі ці папрыкай.

### ХАЛАДЗЕЦ З КУРАНЯЦІ

На адно кураня вагою каля 1 кг трэба ўзяць 3 шклянкі вады, соль, зялёную пятрушку, лыжку масла ці алею, 3 чайныя лыжачкі жэлаціну, баначку зялёнага гарошку.

На дзень перад падрыхтоўкай халадца кураня трэба спячы. Ачысціўшы яго, нацерці соллю, палажыць у сярэдзіну некалькі галінак зялёнай пятрушкі, змазаць тлушчам і спячы на бляшцы ў духоўцы. Астудзіць кураня, аддзяліць філе з грудзей, рэшту мяса дробна нарэзаць, а з крылцаў, шыйкі і ножак зрабіць вывар, варачы іх у вадзе з валашчынай. Працадзіць. Частку вывару астудзіць, намачыць у ім жэлацін, а пасля ўсё разам падагрэць. Адцадзіць з соку зялёны гарошак.

На дно плоскага посуду ўліць крыху халадца, застудзіць. На халадзец палажыць нарэзанае тонкімі скрылёчкамі мяса з грудзей кураняці, упрыгожыць кавалкамі варанай морквы, галінкамі пятрушкі. На гэта палажыць раней нарэзанае мяса, насыпаць роўным пластом зялёны гарошак. Усё гэта заліць халадцом і паставіць у халадзільнік ці ў пограб, каб застыла. Перад падачай нажом абрэзаць халадзец навокал, накрыць посуд, у якім ён застываў, плоскай талеркай, перавярнуць той посуд і на яго дно зверху палажыць на хвіліну сцірачку з гарачай вадой. Перад падачай парэзаць халадзец на 8 частак.

**Гаспадыня**




ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

Надышло шостае лістапада. Лена прыйшла ў той дзень дамоў каля дзвюх гадзін, калі яны павінны былі выйсці ў эфір. Замкнуўшы дзверы пакоя, Надзя дастала рацыю з-пад тумбачкі.

Тэксты першых перадач былі напісаны яшчэ напярэдадні вечарам паводле даных назіранняў Надзі.

Першая радыёграма паведамляла:

„З чацвёртага лістапада пачала перасоўвацца ў Акерман шостая румынская дывізія тчк Армія пеша тчк Коні, узбраенне эшалонамі тчк Вуліцы забіты ваеннымі машынамі тчк Асабіста".

Наконт другой радыёграмы дзяўчаты крыху паспрачаліся. Лена сумнявалася, ці трэба верыць таму, што гаворыцца на Прывозе. Але Надзя ўпарта сцвярджала: „Рыбакі прыдумваць не будуць".

У выніку яна перамагла. І наступная радыёграма паведамляла:

„Узбярэжжа мора замініравана тчк Паводле слоў насельніцтва тчк".

Другая фраза была ўстаўлена па патрабаванню Лены.

Антэна ўключана, тонкія правады батарэй заціснуты клемамі. І зноў адчужаны твар Надзі, з абодвух бакоў сціснуты чорнымі дыскамі тэлефонаў.

— Ну, як, чуеш?.. — раз-пораз нецярпліва пыталася Лена.

Надзя ў адказ толькі адмоўна круціла галавой. І раптам па ўнутранаму святлу, якое ўспыхнула ў глыбіні яе вачэй, Лена зразумела: сувязь ёсць!

Нягучны дробны стук запоўніў пакой. Рука Надзі быццам злілася з ключом: Тук-тук!.. Тук-тук!.. І праз тры мінуты ўсё скончана. Шчаўчок. Надзя перайшла на прыём і пачала запісваць адказ штаба.

Начальнік разведаддзела віншаваў іх з гадавінай Кастрычніцкай рэвалюцыі і з добрым уладкаваннем. „Усю ўвагу перавозкам. Асабліва порт. Легалізуйцеся. Захоўвайце канспірацыю. Жадаю поспеху".

Першая радыёграма з дому! У прыўзнятым настроі дзяўчаты хуценька разабралі ўстаноўку, паклалі ўсе часткі па сваіх месцах і селі піць чай.

З гэтага дня ў іх знікла тое пачуццё адчужанасці, якое ўвесь час валодала імі і абедзвюм псавала настрой. Пра іх помняць, неадкладна адгукаюцца на кожны іх выклік, а галоўнае — чакаюць іх паведамленняў!

Маладзенькая экспедытарша працавала з вялікай добрасумленнасцю і нястомна насіла пакеты з аднаго канца порта ў другі. Уважлівы позірк, вядома, мог бы прыкмеціць, што яна падоўгу стаіць ля прычалаў, якія знаходзяцца ў баку ад службовых маршрутаў. Але ў мітусні порта, у няспынным руху машын і людзей ці можна было ўсачыць за адным чалавекам, калі ён да таго ж не выклікае ніякіх падазрэнняў?

Да тых звестак, якія прыносіла Лена, Надзя дадавала свае. Ёй давялося рабіць тое, чым павінна была займацца Валя. Некалькі дзён запар яна правяла ў раёне таварнай станцыі і ўстанавіла, што туды прыбыла германская матарызаваная дывізія, якая налічвае тысячу аўтамашын і шэсць вагонаў артылерыі.

Цяпер Надзя перадавала радыёграмы два разы ў дзень.

Аднойчы Лена, якая дзяжурыла ля акна, каб папярэдзіць аб небяспецы, заўважыла пеленгатар, што з'явіўся з-за далёкага вугла. Надзя тут жа на паўслове перапыніла перадачу. Машына паволі праехала пад іх вокнамі і знікла.

Пасля гэтага дзяўчаты зрабілі на два дні перапынак, а потым пачалі зноў дзейнічаць з ранейшай энергіяй.

### РАДЗЕЛ ВОСЬМЫ
### Мужчынскі касцюм

Амаль кожны дзень у „Зеетранспартштэле" надзвычайнае здарэнне. То чыясьці небяспечная рука сцірае з пададзенай да прычала баржы надпіс „хлеб" і піша „гарох", а потым, калі яе загрузяць гарохам, выяўляецца, што гароху мала, баржа на чвэрць не загружана, а датружаць яе зернем немагчыма — яно змяшаецца з гарохам. Адпраўляць жа незагружаную баржу нельга, і сам д'ябал не можа вырашыць, што цяпер з ёю рабіць. То нейкім дзіўным чынам з поўнай цыстэрны на зямлю выліваецца газа, то на складах узнікаюць пажары, і самае дзіўнае ў тым, што полымя ахоплівае іх менавіта тады, калі на пастах стаяць нямецкія вартавыя, а ўсе дзверы старанна зачынены і апламбіраваны.

Папеску ўзмацніў варту. Гестапа арыштавала некалькіх рабочых і інжынераў, чэхі і палякі былі ўзяты пад асаблівы кантроль, але колькасць дыверсій не змяншалася.

Лена ўглядалася ў твары людзей, якія сустракаліся ёй у порце. Як бы добра было напасці на след падпольнай арганізацыі, якая паводле яе меркавання, дзейнічала ў порце! Аднак, як Лена ні старалася, ёй гэта не ўдавалася. І яна мучылася ад таго, што побач з ёю адбываюцца вялікія справы, а яна ходзіць як сляпая і не можа знайсці тых, якія маглі б стаць сапраўднымі сябрамі і памочнікамі ў рабоце. *(Працяг будзе)*

